БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

15 снежня 1994 г.

Чацвер

№ 135(13852)

Кошт у розніцу 40 рублёў

Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:

☐ *Як жывеш, студэнт?* ФІЛАСОФІЯ МАСТАЦТВАЎ У МАСТАЦКАЙ АКАДЭМІІ. 2

☐ *З пошты прэзідэнта.* 2

☐ *Постаці.* ПАЭЗІЯ І ЛЁС СЦЯПАНА ГАЎРУСЕВА. 3

☐ *Крымінальнае бюро.* ІНСТРУМЕНТ ЗЛАЧЫНСТВА – АЛОВАК. 3

☐ *Нотны аркуш.* ЗНОЎ "АББА". 4




Малюнак І.АМЕЛЬЯНОВІЧ.

*Наталлю Духнову, спартсменку па бегу на дыстанцыю 800 метраў, напэўна, ведаюць аматары лёгкай атлетыкі больш за мяжой, чым у нас у Беларусі.*

*Тры гады таму, калі адбыўся распад Савецкага Саюза, перад членам зборнай каманды краіны паўстала пытанне: дзе трэніравацца? І Наталля выбрала беларускага трэнера. Затым на вельмі прэстыжных спаборніцтвах Кубка свету ў Лондане ў складзе зборнай каманды Еўропы Н.Духнова займае трэцяе месца.*

*Цяпер Наталля разам са сваім трэнерам старанна рыхтуецца да новых стартаў, але галоўныя яе спаборніцтвы — гэта чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы, які адбудзецца ў жніўні 1995 года ў Швецыі. Пажадаем жа ёй удачных выступленняў.*



Генадзь СЯМЁНАЎ, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"



*Сесія абласнога Савета народных дэпутатаў прайшла ў Гродна. У яе рабоце прыняў удзел прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Сесія выбрала кіраўніка выканаўчай улады вобласці. Ім стаў Аляксандр Дубко.*

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛІНФАРМ.

### СНД: жыццё патрабуе інтэграцыі

*Жыццё ўсё больш настойліва ставіць на парадак дня пытанне аб інтэграцыі былых саюзных рэспублік. Гэта думка стала лейтматывам выступлення выканаўчага сакратара СНД Івана Каратчэні на прыёме ў гонар трэцяй гадавіны стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў.*

Далейшае размежаванне краін, якія жылі ў адзінай дзяржаве, можа быць гібельным для іх, падкрэсліў у сваім звароце да прысутных прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

На прыёме прысутнічалі Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, кіраўнікі органаў дзяржаўнага кіравання, народныя дэпутаты, кіраўнікі і прадстаўнікі дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Мінску.

### Аркадзь Вольскі адмовіўся ад прыёму

*Аркадзь Вольскі правёў прэс–канферэнцыю па выніках мінскай сустрэчы прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў трох славянскіх краін. Ён выступіў за стварэнне адзінай эканамічнай прасторы і пагадзіўся з ідэяй стварэння транснацыянальных фінансава–прамысловых аб'яднанняў Расіі, Украіны і Беларусі, якая ўжо мае практычнае ажыццяўленне. "Трэба заканчваць балбатню аб празрыстых граніцах, — падкрэсліў А.Вольскі, — і рашуча пачынаць іх стварэнне, як бы цяжка гэта ні было". Аб'яднанне павялічвае капіталы і прыбаўляе сіл, аб чым сведчыць таксама сусветная практыка.*

Адказваючы на пытанне аб прычынах тупіка ў перагаворах па адзінай рублёвай зоне, прэзідэнт расійскага Саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Аркадзь Вольскі вінаватым у гэтым назваў расійскі бок, які "паводзіў сябе вельмі недыпламатычна і некарэктна".

Абмяркоўваючы белавежскую "ліквідацыю" СССР, Аркадзь Вольскі паведаміў журналістам, што ён адмовіўся прысутнічаць на прыёме з нагоды трохгоддзя стварэння СНД.

БЕЛІНФАРМ.

### Прафсаюзы не жартуюць

*Напрыканцы мінулага тыдня Асацыяцыяй незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі, Свабоднымі прафсаюзамі і Незалежнымі прафсаюзамі гарнякоў былі абмеркаваны пытанні каардынацыі дзеянняў па правядзенню масавых акцый пратэсту супраць зніжэння ўзроўню жыцця і збяднення працоўных.*

Сёння праходзіць сход прадстаўнікоў прафсаюзаў, якія падтрымліваюць акцыю пратэсту, каб узгадніць парадак яе правядзення. На 20 снежня намечана паўтарагадзінная папераджальная забастоўка, у ходзе якой будуць перададзены патрабаванні ў адрас прэзідэнта і ўрада. У выпадку непрыняцця мер па паляпшэнню становішча працоўных незалежныя прафсаюзы 13 студзеня правядуць другі этап акцыі з поўным спыненнем вытворчасці, зборам і рухам рабочых да месца правядзення мітынгу. Створаны каардынацыйныя саветы.

Святлана КУЛІКОВА.

### "Сучасная медыцына – Чарнобылю"

*У рэспубліканскім выставачным цэнтры адкрыўся II міжнародны салон "Сучасная медыцына — Чарнобылю".*

Як вядома, праблемы, звязаныя з Чарнобылем, вельмі актуальныя для нашай рэспублікі моцна забруджанай радыенуклідамі пасля аварыі 1986 года. Сваю прадукцыю, разнастайнае медабсталяванне, лекавыя прэпараты прадставілі беларускія фірмы з Мінска, Барысава, Віцебска, Брэста і Нясвіжа. Шмат прадукцыі на салон прывезлі фірмы, якія спецыялізуюцца па выпуску абсталявання для патрэб медыцыны з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Харкава, Арзамаса, Кіева, Тэль-Авіва, Казані, Таліна, Берліна, Каўнаса і Акцюбінска. Пад час працы міжнароднага салона пройдзе семінар пад назвай "Эфектыўныя метады лячэння з дапамогай лекавых прэпаратаў, медыцынскага абсталявання, прыбораў, інструментаў". Сваю работу выстаўка завершыць 16 снежня.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### "INTERNATIONAL HOUSE" расчыняе дзверы

*"International House" ("Міжнародны дом") нарэшце закладвае падмурак і ў Беларусі. У Мінску адкрыўся нядаўна філіял гэтай вядомай арганізацыі, якая займаецца выкладаннем англійскай мовы.*

Штаб-кватэра "International House" знаходзіцца ў Лондане, а яе 90 філіялаў размешчаны больш чым у 20 краінах свету. Стварэнне "International House Minsk" ("Мінскага міжнароднага дома") прафінансаваў "Фонд Сораса — Беларусь", а яго навучэнцамі сталі больш за 300 студэнтаў, школьнікаў і дарослых. У наступным годзе "Мінскі дом" арганізоўвае новыя групы — бізнес-мовы, пачатковага і інтэнсіўнага вывучэння англійскай мовы, а таксама ладзіць курсы перападрыхтоўкі выкладчыкаў. Пад яго "дахам" адкрыецца і англійскі клуб, дзе будуць праходзіць вечарыны. Яшчэ адзін філіял "International House" хутка з'явіцца ў Віцебску і, магчыма, у Гомелі.

Наталля ВАЛАКІДА.

### "Лайбах" – госць Мінска

*12 снежня ў Палацы культуры Белсаўпрофа адбылася імпрэза, якую з поўным правам можна назваць падзеяй нумар адзін у культурным жыцці Мінска. Ёй стаў канцэрт вядомага славенскага рок–гурта "Лайбах". Менавіта так у перакладзе з нямецкай мовы гучыць назва сталіцы маладой славенскай дзяржавы. Што тычыцца каманды, то яна даволі сталая, ёй амаль 15 год. Свае кранжэлкі гурт выдае на лонданскай фірме "М'ют рэкардз". Найбольш вядомыя з іх — "Опус дэя", "Макбет", "Да будзе так", "Любляна—Заграб—Бялград".*

Творчасць славенскага гурта — своеасаблівы музычны сінтэз таталітарнага мастацтва постцітаўскай Югаславіі. Але вернемся да мінскага канцэрта. Невялікая ўтульная зала Палаца культуры Белсаўпрофа была цалкам запоўнена. Клубы штучнага дыму, гучыць пульсуючая музыка — моцны альтэрнатыўны "Індастрыял"—рок. Застаецца дадаць, што ўсе кампазіцыі, выкананыя на мінскім выступленні, уваходзяць у апошні альбом гурта, які называецца "НАТА".

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### Курсы валют на 14 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 8780 | 9060 | 5575 | 5789 |
| "Прыор" | 9100 | 9350 | 5770 | 5580 |
| "Дукат" | 8850 | 9100 | 5500 | 5930 |

ВАКОЛ ПАДЗЕІ

## Чачэнскі "гордзіеў вузел"

*Трагічнае развіццё падзей вакол Чачні з кожным днём набывае ўсё больш выразнае гучанне.*

Канфлікт паволі перарастае межы лакальнай расійскай праблемы. Вось процістаянне "Масква—Грозны" становіцца сімвалічнай лініяй падзелу не толькі геапалітычных прыярытэтаў і інтарэсаў. Чачэнскі крызіс перамяшчаецца ў тым ліку і ў сферу вялікай палітыкі. А тут — свае законы і адметная логіка. Пра палітычны аспект каўказскай драмы крыху ніжэй, спачатку прыгадаем храналогію яе развіцця. Гісторыя дудаеўскага рэжыму, як вядома, хаця і непрацяглая, аднак, упісваецца ў агульную постсавецкую гістарычную канву. Расія пасля Белавежжа, мякка кажучы, не ўяўляе сабой узор маналітнай дзяржаўнай будовы. Разбурэнне СССР мела інерцыю і аўтаматычна рэпрадуктавала цэнтрабежныя "вектарныя" тэндэнцыі ўнутры Расійскай Федэрацыі. Дзяржава ў новых, дастаткова ўмоўных межах сутыкнулася з рэальнай пагрозай натуралізацыі распаднага імпульсу. На ўзроўні ўнутраным. Такога развіцця падзей удалося пазбегнуць, але уніфікацыя працэсаў рэгіянальнай суверэнізацыі не адбілася на сітуацыі ў Чачні. Некалькі дзён таму (а падобныя планы ў арсенале крамлёўскай улады былі і раней, варта ўспомніць хаця б вядомы "план Руцкога") стаўка на ваеннае рашэнне, зробленая прэзідэнтам і ўрадам, пачала рэалізоўвацца.

Кароткая хроніка. 29 лістапада Б.Ельцын звярнуўся да ўдзельнікаў узброенага канфлікту: на працягу 48 гадзін ім прапаноўвалася спыніць агонь, скласці зброю, распусціць усе ўзброеныя фарміраванні і вызваліць захопленых у ходзе процістаяння грамадзян. 1 снежня падпісаны ўказ прэзідэнта Расіі "Аб некаторых мерах па ўмацаванню правапарадку на Паўночным Каўказе". Ім прадугледжвалася добраахвотная здача зброі органам правапарадку да 15 снежня. 7 снежня пытанне аб ходзе выканання мерапрыемстваў па аднаўленню канстытуцыйнай законнасці і міру ў Чачні разгледжана на пасяджэнні Савета Бяспекі. На наступны дзень абстаноўку вакол Чачні абмеркавалі Савет Федэрацыі і Дзяржаўная Дума (рашэнні не прыняты). 9 снежня Б.Ельцын указам даручыў ураду выкарыстаць усе наяўныя сродкі для раззбраення незаконных узброеных фарміраванняў у Чачні і зоне асеціна-інгушскага канфлікту. 10-га войскі Міністэрства абароны і Міністэрства ўнутраных спраў РФ увайшлі на тэрыторыю Чачні. Далей чачэнскі "гордзіеў вузел" пачаў закручвацца ўжо з новай хуткасцю. На фоне палітычных дэмаршаў вогненнае кола пакацілася па каўказскай зямлі і замкнулася вакол Грознага. Логіка вайны не заўсёды падпарадкоўваецца ўказам і жаданням тых, хто заклікаsucc трымаць "браніраваны кулак" войскаў пад пэўным кантролем. Падзеі развіваюцца ледзь не маланкава, таму цяжка прагназіраваць сённяшнюю сітуацыю. Учора (напярэдадні 15-га снежня), мабыць, быў апошні шанц адносна "мірнага" ўрэгулявання. Хаця надзеі на тое слабыя. Пралілася кроў і кроў немалая. Па стану на ўчарашнюю раніцу (паводле афіцыйных паведамленняў) 9 расійскіх ваеннаслужачых загінулі, 14 паранена. Паўторым, такая інфармацыя паступала з афіцыйных крыніц.

Тым часам паралельна назіралася інтэнсіўная дыпламатычная актыўнасць на розных узроўнях, што з улікам вядзення баявых дзеянняў — выпадак вельмі рэдкі, калі не беспрэцэдэнтны. Працягваліся перамовы ва Уладзікаўказе паміж рабочай камісіяй урада Расіі і дзвюма чачэнскімі дэлегацыямі — прадстаўнікамі афіцыйнага Грознага і апазіцыйнага Часовага савета Чачні. Між тым, у Маскве зноў прайшло пасяджэнне Дзяржаўнай Думы. Яе Савет раней вырашыў падтрымаць указ прэзідэнта ад 1 снежня, ён прадугледжвае непрыцягненне да крымінальнай адказнасці асоб, якія добраахвотна складуць зброю да сённяшняга дня. Пленарнае пасяджэнне Дзяржлумы вызначалася эмацыянальным напалам, дзеянні ўрада расцэньваліся негатыўна. Ельцына і Кабінет Міністраў падтрымалі асобныя дэпутаты (у прыватнасці, Бабурын і Фёдараў) і фракцыя ЛДПР. Прэм'ер-міністр В.Чарнамырдзін першым з вышэйшых дзяржаўных чыноў нарушыў маўчанне, за ім — У.Шумейка. Чарнамырдзін даволі актыўна растлумачваў пазіцыю прэзідэнта і ўрада (нельга цярпець сітуацыю, калі з-за поўнай адсутнасці кантролю за злачыннымі элементамі з поўдня Расіі па ўсёй краіне цягнуцца ланцужкі наркабізнесу, гандлю зброяй, а мірныя шчодра адобраныя прыродай рэгіёны нехта свядома ператварае ў зону пастаяннай нестабільнасці). Спікер верхняй палаты расійскага парламента У.Шумейка (днямі ў СМІ распаўсюджваліся ледзь не сенсацыйныя выказванні апошняга аб пэўнай законнасці грозненскага рэжыму) таксама ўрэшце вызначыўся: войскі ўвайшлі ў Чачню з адзінай мэтай — стварэння двух ізаліруючых калец вакол рэспублікі і Грознага. Паводле Шумейкі, гэтыя блакіруючыя кольцы маглі б дазволіць спакойна весці перамовы. Прагноз небясспрэчны.

Падзеі вакол Чачні апынуліся ў цэнтры ўвагі сусветнай грамадскасці. Пункт гледжання афіцыйных замежных колаў дастаткова стрыманы і аднназначны: Чачня з'яўляецца неад'емнай часткай Расіі, і прадпрынятыя меры ў адносінах да яе — расійская ўнутраная справа. Акрэслілі свае пазіцыі і беларускія палітыкі. Старшыня ВС М.Грыб зрабіў афіцыйную заяву для прэсы аб сітуацыі ў Чачні, якая па сэнсу не разыходзіцца з трактоўкай вышэйназваных "замежных колаў". Прадстаўнікі апазіцыйных плыняў з тым не пагадзіліся і зрабілі свае заявы. Цяпер у двух словах пра маскоўскі палітычны фон. Апошнія дні прынеслі многа неспадзяванак. Расійскі палітычны істэблішмент, на думку многіх аналітыкаў, ужо сёння выкарыстоўвае чачэнскую карту са згадкай пра "прэзідэнцкі пасьянс-96". Прынамсі, і Ельцын, і Чарнамырдзін, і Шумейка паспелі абвінаваціць палітычных лідэраў, не згодных з сілавым рашэннем канфлікту ў Чачні, менавіта ў дбанні аб сваіх вузкакаставых мэтах і планах на аглядную будучыню. Безумоўна, чачэнскі крызіс у залежнасці ад яго развіцця паўплывае і паўплывае, магчыма, кардынальна на расстаноўку сіл у Крамлі і па-за яго старажытнымі вежамі. Ён можа стаць ракавым для прэзідэнта, як можа (пры хуткай лакалізацыі ваенных дзеянняў і паспяховай дэманстрацыі дзяржаўнай мэтазгоднасці прадпрынятых мер) і прынесці дадатковыя дывідэнды крамлёўскаму гаспадару. У тым выпадку, калі на першым плане не апыніцца трагедыя смерці, імёны расійскіх салдат — ахвяр каўказскай вайны (хай і не параўнальнай па маштабах з той, што пакінула крывавы шлейф у мінулым стагоддзі) упаўне можа занесці на свае штандары апазіцыя: ад камуністычнай да нацыянал-фашысцкай. Пакуль палітычныя авангардысты высвятляюць адносіны (чаго каштуюць, напрыклад, выхад з гайдараўскай думскай фракцыі Андрэя Козырава або недыпламатычныя разыходжанні ў дэмакратычным лагеры), свет застыў у чаканні. Што прынясе сённяшні дзень — мір, вайну? Толькі дзень і адкажа. Хаця дарэчы ўспомніць словы Р.Хасбулатава ў пазаўчарашнім інтэрв'ю расійскаму тэлеканалу: партызанскай вайны ў Чачні не будзе.

Якаў ЯСЭПКІН.

## "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"

### У ШАТЛАНДЫІ – ЭВАКУАЦЫЯ

*У Шатландыі праходзіць эвакуацыя насельніцтва, якое пацярпела ў выніку паводкі.*

З зоны бедства вывезена 600 чалавек, 3 чалавекі прапалі без вестак і, па ўсёй верагоднасці, загінулі. Больш за ўсё разбурэнняў у вобласці Стратклайд і Цэнтральнай Шатландыі. Паводка была адной з самых вялікіх за ўсю гісторыю краіны.

### РУМЫНСКІЯ ПРАЛЕТАРЫІ ПРАТЭСТУЮЦЬ

*Мінулы тыдзень у Румыніі быў адзначаны акцыямі пратэсту рабочых.*

Урад не выплачвае ім заработную плату ўжо на працягу двух месяцаў. Акрамя таго, рабочыя патрабуюць ад улад паляпшэння ўмоў працы на прадпрыемствах.

### ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ МІРАЦЬ ВЕРНІКАЎ

*Міністр гандлю ЗША вылецеў у Белфаст для падрыхтоўкі да правядзення міратворчай канферэнцыі.*

У ёй прымуць удзел больш за 200 прадстаўнікоў дзелавога свету з 13 краін. Сустрэча, паводле слоў прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Джона Мэйджара, заклікана дапамагчы наладжванню мірнай дамовы паміж каталіцкімі і пратэстанцкімі экстрэмістамі.

### ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ – НА "ТАРМАЗАХ"

*Прэм'ер–міністр Славакіі В.Меч'яр прадставіў новы ўрадавы кабінет.*

У сваім выступленні ён заявіў таксама пра намер прыпыніць працэс прыватызацыі ў краіне.

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

БІЗНЕС-КЛАС

## ПРАМЫСЛОЎЦЫ – ЗА ЭКАНАМІЧНЫ САЮЗ

Трохбаковая сустрэча прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Беларусі, Расіі і Украіны 12 снежня ў Мінску яшчэ раз пацвердзіла агульнасць поглядаў па выхаду з цяперашняга крызісу. Выступаючы з прывітальнай прамовай перад яе ўдзельнікамі, прэм'ер-міністр рэспублікі Міхаіл Чыгір закрануў шырокі круг праблем, выкліканых распадам былога СССР, разрывам гаспадарчых сувязей. На яго думку, незалежныя цяпер дзяржавы ўсё больш адчуваюць неабходнасць перш за ўсё эканамічнай інтэграцыі. "Выбрацца ў адзіночку з крызісу, у якім мы ўсе знаходзімся, — падкрэсліў Міхаіл Чыгір, — немагчыма". Беларусь заўсёды стаяла і стаіць за эканамічны саюз з усімі рэспублікамі былога Саюза і, перш за ўсё, з Расіяй і Украінай. Ідэя такой інтэграцыі знаходзіць падтрымку як сярод прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, так і палітычных дзеячаў. Ніхто не можа жыць у ізаляцыі, тым больш рэспублікі, якія нядаўна ўваходзілі ў адзіную дзяржаву, дзе за многія гады так цесна перапляліся эканамічныя і гаспадарчыя сувязі. У выпадку поўнай дэзінтэграцыі Беларусь, напрыклад, змагла б вырабляць толькі чатыры працэнты свайго канчатковага прадукту, Украіна — 15 працэнтаў. Ды і Расія апынулася б у складаным становішчы. У такім выпадку, паводле разлікаў спецыялістаў, яна ў стане забяспечваць "толькі 65 працэнтаў аб'ёму нацыянальнай вытворчасці".

Гэтая і іншыя праблемы інтэграцыі знайшлі сваё месца ў выступленнях на сустрэчы прэзідэнта Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Міхаіла Лаўрыновіча, прэзідэнта Расійскага саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Аркадзя Вольскага, іх украінскага калегі Васіля Еўтухова, іншых дзелавых людзей.

Гаворачы аб неабходнасці рэінтэграцыі, маскоўскі госць Аркадзь Вольскі выказаў гарачае імкненне прыкласці максімум намаганняў па стварэнню ўзаемавыгаднага эканамічнага саюза на аснове поўнага даверу, добрасуседства і раўнапраўя. Ён падкрэсліў, што гэта "траістая сустрэча" зусім не лакальнага характару. Яна павінна стаць складанай часткай пачатага стратэгічнага працэсу ўзаемавыгаднай эканамічнай інтэграцыі трох дзяржаў, якія разам з Казахстанам па сутнасці складаюць аснову СНД. Адсюль асаблівае значэнне мінскай сустрэчы. Беларусь і Украіна блізкія Расіі не толькі ў эканамічнай сферы, але і пройдзенымі разам жыццёвымі дарогамі. Мы заўсёды былі разам, і няма той сілы, якая магла б парушыць адзінства брацкіх славянскіх народаў, што б у гэтым напрамку ні рабілася.

Галоўная мэта цяперашняй сустрэчы, паводле цвёрдага пераканання Аркадзя Вольскага, заключаецца ў тым, каб выпрацаваць канкрэтныя прапановы для рашучага паскарэння эканамічнай рэінтэграцыі трох дзяржаў. Не менш важная і тая акалічнасць, што гэта сустрэча прывядзе да больш цеснага наладжвання асабістых дзелавых кантактаў.

Мяркуючы па прынятых у выніку мінскай сустрэчы дакументах, гэта мэта была дасягнута. Прамыслоўцамі і прадпрымальнікамі Беларусі, Расіі і Украіны падпісаны пагадненне аб супрацоўніцтве ў арганізацыйным, прававым і эканамічным забеспячэнні інтэграцыйных працэсаў па стварэнню транснацыянальных фінансава-прамысловых аб'яднанняў (груп), а таксама зварот да кіраўнікоў дзяржаў, урадаў і парламентаў трох рэспублік-удзельніц.

**БЕЛІНФАРМ.**

ЯК ЖЫВЕШ, СТУДЭНТ?

# Філасофія мастацтва,

## або Чаму ў акадэміі не хапае грошай на святло?

*Мая першая сустрэча з жывапісам адбылася ў спецыялізаванай школе. Я тады не разумела: ці то мой мастацкі талент вельмі глыбока ляжыць, ці то яго зусім няма. Праўда, гэта не перашкаджала мне паважаць працу выкладчыкаў, якія спрабавалі ўзмацніць у маёй душы любоў да выяўленчага мастацтва, і шчыра захапляцца на практычных занятках жывапісам, малюнкам, кампазіцыяй, а на тэарэтычных — гісторыяй мастацтва.*

*...Не атрымаўся з мяне мастак. Але ёсць такія творчыя асобы, школьнае захапленне якіх ператварылася ў своеасаблівае адчуванне свету. І сёння яны ўжо студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў, адзінай вышэйшай установы ў рэспубліцы, дзе рыхтуюць мастакоў-жывапісцаў. Я завітала да першакурснікаў (дарэчы, большасць з якіх ужо скончылі мастацкае вучылішча).*

### Дзень за днём...

Падымаешся на чацвёрты паверх, уваходзіш у аўдыторыю, што нагадвае сапраўдную майстэрню мастака. Няскончаныя работы, мальберты, алейныя фарбы, палітры, шклянкі... Кожны вечар арганізаваны непарадак агортвае цішыня. І кожную раніцу восем чалавек парушае яе, каб распачаць працу для рук і для душы.

Пачаўшыся ў дзевяць гадзін, дзень цягнецца па раскладу: тры гадзіны — на жывапіс, тры — на малюнак, пасля перапынку — агульнаадукацыйныя лекцыі. На лекцыях ужо не ўсе "сто працэнтаў" навучэнцаў. Што і нядзіўна: папрацуй шэсць гадзін за мальбертам...

Толькі ўвечары студэнты могуць расслабіцца і, нарэшце, паспяшацца дахаты. Аднак, ёсць "экземпляры", якія вяртаюцца ў майстэрню і працягваюць яшчэ працаваць.

Часу на якое-небудзь адвольнае хобі ўжо не хапае. Толькі не трэба спешна рабіць высновы, каб не палічыць мастакоў ушчэмленымі. Канешне, студэнты малююць вам перагружаную працай карціну свайго жыцця, трошкі скардзяцца... І, думаючы, што яны падрыхтаваліся выслухаць вашы заўвагі, вы раптам пачняце разважаць: "Ну, вядома, агульнаадукацыйныя дысцыпліны ніяк нельга пацясніць — вышэйшая адукацыя ўсё ж такі. А можа лепей было б скараціць адведзены час на жывапіс і малюнак? І пачуеце ў адказ абуральнае: "Толькі не гэта! Лепей яшчэ дабавіць..."

А днямі распаўсюдзілася сярод студэнтаў чутка, быццам у акадэміі не хапае грошай, каб заплаціць за святло. Гэта азначае, што цяпер "адміністрацыйна не прадугледжана" затрымлівацца ў майстэрнях, напрыклад, да 23 гадзін, як гэта было магчыма раней. Не дазваляецца і курыць у памяшканнях, карыстацца электрапрыборамі, што стала забароненым пасля пажару ў кансерваторыеўскім інтэрнаце... Узарваўся тэлевізар, згарэлі пакой і ў ім два хлопцы, якія нічога не змаглі зрабіць з полымем...

Дзень за днём — малюнак, жывапіс, лекцыі. Павольнае жыццё непакояць час ад часу "недарэчныя" забароны адміністрацыі, але маладыя мастакі не вельмі звяртаюць на гэта ўвагу. Галоўнае для іх зараз — адолець сапраўднага і самага, бадай, страшнага свайго ворага. А ён, як казаў Маціс, у мастака толькі адзін — яго ўласныя дрэнныя карціны.

### Ні часу, ні стыпендыі

Пільней прыглядаюся да хлопцаў і дзяўчат, да майстэрні, дзе мы сядзім... Спрабую заўважыць нешта асаблівае, што адрознівае студэнта-мастака ад студэнта-гісторыка, напрыклад, педагога альбо журналіста.

...Не спяшаюцца на "Санта-Барбару" — лічаць, што ёсць больш цікавыя шырокаэкранныя стужкі. Апалітычныя — мала глядзяць тэлебачанне, не давяраюць прэсе. Апранаюцца сціпла і зручна — дарагое адзенне тут не патрэбна: фарбы не выбіраюць што пэцкаць, дый амаль цэлы дзень у акадэміі — не дзве гадзіны на танцавальнай пляцоўцы. Прыглядваюцца да людзей з асаблівай меркай: а як бы я яго(яе) намаляваў?..

Адчуваю, што ўсё гэта — не асаблівасці жыцця ў мастацтве, а хутчэй — заканамернасці. Раптам чыесьці, амаль выпадковыя ў нашай размове, словы "наогул, усё добра. Толькі вельмі не хапае часу. І стыпендыі..." усё мне растлумачылі. Вось тое, чым адрозніваюцца мастакі ад іншых студэнтаў, з якімі мне даводзілася сустракацца!

Скажаце: усім не хапае часу, а кожнаму нашаму студэнту — перш-наперш, стыпендыі. Толькі тут ёсць адна маленькая акалічнасць. Згадзіцеся, і часу, і стыпендыі звычайнаму студэнту не хапае на што — на добры адпачынак. А маім знаёмым жывапісцам не хапае іх для добрай працы.

Зразумела, як яны выкарысталі б дадатковы час, дзе яго правялі б. У майстэрні, ля мальберта. А што тычыцца стыпендыі, то быў час, калі яе хапала на 13 шклянак бялілаў (прычым, у кожнай — 1 кг), а цяпер — толькі на 2 цюбікі... Нехта дадаў: "А мне шклянка бялілаў — на два тыдні".

...Але кожны мастак — філосаф. Яны самі пра сябе кажуць: "сярод мастакоў філосафаў болей, чым сярод саміх філосафаў". Любяць спрачацца, на рытарычныя пытанні адказы шукаюць з дапамогай фарбаў і палатна. Але ёсць у іх мастацкім жыцці сітуацыі, дзе ні спрэчкі, ні фарбы не дапамагаюць.

Пасля заканчэння акадэміі адным з лепшых варыянтаў працы будзе для маіх знаёмых прафесія настаўніка ў спецыялізаванай школе. Разумеючы гэта, я вырашыла запытацца ў сённяшніх першакурснікаў: "Калі б прапанавалі працу за мяжой, ці паехалі б?" І пачула: "У мастацкім жыцці замежжа сёння няма такога разумення жывапісу, якім займаемся мы. Зараз там дызайнерскі ўхіл. Гэта вельмі высокі прафесійны ўзровень мастацтва. Сярод нас наўрад ці знойдзецца такі майстар, які змог бы там працаваць. Але калі б усё ж была такая магчымасць — паехалі б". Штосьці лепячу пра нацыянальнае Адраджэнне... Нехта абураецца: "Які ты далёкі ад мастацтва чалавек! Зразумела, кожны з нас хоча, як ты намагаешся сказаць, працаваць на беларускай зямлі... Але пры чым тут гэта! Пікасо і Далі нарадзіліся ў Іспаніі, а працавалі ў Францыі. Але чыёй жа зямлі належаць іх імёны? Наколькі гэта прынцыпова? Ці ёсць у мастацтва межы..."

...Мастак ніколі не звяртаў увагу на адвечныя забабоны, адлюстроўваў тое, пра што думаў.

Мову, што належыць адной нейкай краіне, толькі тут могуць і разумеюць, а мову жывапісу разумее кожны і, без асэнсавання таго, рука француза ці беларуса стварала карціну. Справа ж у тым, каб навучыцца разважаць. І мастаку, і гледачу.

**Святлана БАРЫСЕНКА, студэнтка факультэта журналістыкі.**

*Студэнцкае жыццё тым і добрае, што, акрамя лекцый і экзаменаў, ёсць яшчэ дыскатэкі і спатканні, алімпіяды і конкурсы, дасціпныя КВЗ.*

*Многа гледачоў і балельшчыкаў сабраў студэнцкі міжвузаўскі конкурс "Міс Абаяльнасць-94", які прайшоў у Акадэміі міліцыі ў Мінску. У ім за званне самай абаяльнай спаборнічалі дзяўчаты з універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, політэхнічнай акадэміі, тэхналагічнага універсітэта і Акадэміі міліцыі. Ва ўсіх заданнях удзельніцы паказалі сябе мілымі, абаяльнымі, дасціпнымі.*

*Званне "Міс Абаяльнасць-94" атрымала Таццяна Сямёнчык — слухачка Акадэміі міліцыі.*

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.**

## Вяртаючыся да надрукаванага

28.09.1991 года "Чырвоная змена" надрукавала фельетон "Залатая рыбка". Праз год з лішкам адзін з тых, пра каго ішла гаворка ў артыкуле, М.Ф.Андрыянаў, падаў на газету ў суд, палічыўшы, што публікацыя закранае яго гонар і годнасць. У ходзе судовага разбору, які цягнуўся каля двух гадоў, некаторыя факты адносна М.Ф.Андрыянава не знайшлі пацверджання. Згодна з рашэннем народнага суда Горацкага раёна Магілёўскай вобласці ад 26 лістапада 1994 года паведамляем, што выразы "разленаваўся ўшчэнт", "загады аддаваў прама з ложка", "лёгка казку казаць, ды цяжка гультая перавыхаваць", а таксама "стане зразумелым, хто ж на самай справе спрабаваў парушыць выбарчы закон" (маецца на ўвазе выбарчая кампанія 1990 года) ужыты адносна М.Ф.Андрыянава неправамерна. Удакладняем таксама, што ў гэты ж час М.Ф.Андрыянаў не "ўгаворваў" дырэктара саўгаса "Старасельскі" А.Белкіна "правесці незаконны выбарчы сход", а толькі спытаў, ці можна яму вылучыць сваю кандыдатуру па гэтай акрузе.

У астатняй частцы іска М.Ф.Андрыянаву судом адмоўлена.

ЭКАНОМІКА

## Папяровыя пузыры?

*Як ідуць у краіне рэформы? Як ні дзіўна, гэта пытанне ўзнікла пасля адной тэлеперадачы. Можа каму факт, на якім хочацца засярodзіць увагу, падасца дробязным, невызначальным. Але ж, вядома, бывае дастаткова аднаго выпадку, каб зрабіць пэўныя высновы. А справа вось у чым.*

З блакітнага экрана гаварыў дырэктар аднаго з кардонна-папяровых заводаў. Можа кіраўнік прадпрыемства, прадукцыя якога сёння асабліва дэфіцытная, апраўдваў пра поспехі і перамены, якія прынеслі ў вытворчасць рэфармаванне, рыначныя адносіны, словам, пра ўласны вопыт работы па-новаму. Дзе там! Як павялося пасля падзення адміністрацыйна-каманднай сістэмы, наш гаспадарнік канстатаваў, што прадпрыемства працуе не на поўную магутнасць, новае абсталяванне не выкарыстоўваецца, попыт на прадукцыю ўсё больш не задавальняецца. Прычына? Адсутнасць сыравіны. Чаго вы думаеце? Звычайнай макулатуры. Каб хоць якнебудзь падтрымаць работу прадпрыемства, яно, паводле слоў дырэктара, вымушана закупляць яе за мяжой, а дакладней, у суседняй Расіі. Прычым з пераплатай у два разы.

Тут варта зазначыць: даюць аб сабе знаць разарваныя эканамічныя сувязі. Аднак высвятляецца, калі добра захацець — яны раптам з'яўляюцца.

Так што не трэба здзіўляцца, калі неўзабаве мы станем даўжнікамі не толькі за энергарэсурсы, але і за імпартную другасную сыравіну. Адным словам, калі эканоміка — той жа спектакль, то ў бліжэйшы час будзе дэманстравацца захапляючая п'еса. Уявіце, на сцэне мноства акцёраў і ўсе выконваюць адну і тую ж ролю — просяць міласціну. Смех дый годзе. Чагочага, а гэтага дабра ў нас столькі, што куды ні паглядзі, куды ні ступі — усюды сам чорт спатыкнецца. Паглядзіце на тыя кантэйнерныя пляцоўкі, куды штодзень зносяцца ў скрыні бытавыя адходы. Добрая палавіна там паперы, газетнай і кніжнай, кардон ад розных упаковачных скрынак, выкінутае старое адзенне, анучы і многае іншае, што можа паслужыць сыравінай не толькі для папяровай вытворчасці. Можна толькі ўявіць, колькі каштоўнай і таннай сыравіны атрымала б наша папярова-кардонная прамысловасць, той самы завод "Альберцін", каб усё гэта па-гаспадарску збіралася і захоўвалася. Які б можна было мець прыбытак!

Узнікае пытанне: ці ёсць у нас адпаведныя службы, арганізацыі, структуры, для якіх гэтая справа была б святым абавязкам. Безумоўна, фармальна ёсць. Гэта спецыяльныя нарыхтоўчыя канторы. Не ў прыклад іншым гандлёвым арганізацыям, яны рэкламаваць сябе не спяшаюцца. А дарэмна. Так, мала хто ведае, што ў Мінску дзейнічаюць дзве гэткія канторы — № 1 і № 2, у кожным раёне горада ёсць іх прыёмныя пункты.

Трэба адзначыць, што раней гэта структура заяўляла аб сабе быццам бы нядрэнна, выконвалі план, мелі пэўную выручку, матэрыяльную зацікаўленасць. Але тады нарыхтоўшчыкі не задавальняліся толькі тым, што прыплывала да іх самацёкам, а перыядычна планавалі рэйды па мікрараёнах, прыцягвалі да гэтай справы школьнікаў, якія ў сваю чаргу арганізоўвалі спецыяльныя кампаніі па збору другаснай сыравіны. З мэтай заахвочвання здатчыкаў ім выдавалі талоны, за якія можна было набыць дэфіцытную літаратуру.

Канешне, ад гэтага можна адмахнуцца. Маўляў, нязручна: дарагія транспартныя выдаткі, паліва, а кошт на макулатуру амаль што ранейшы. У выніку растуць і пашыраюцца звалкі, а папярова-кардоннае прадпрыемства завозіць сыравіну з Расіі.

Мяркую, так атрымліваецца таму, што нашы шаноўныя нарыхтоўшчыкі знаходзяцца ў палоне ўстарэлых метадаў і прыёмаў, якія ўжо не спрацоўваюць ва ўмовах рынку. А каб пераадолець тупіковае становішча, патрабуюцца новыя падыходы, пэўныя арганізацыйныя рашэнні. Аднак, застаючыся манапалістамі, яны не непакояцца, што хтосьці можа захапіць іх поле дзейнасці, чагосьці чакаюць.

Чаму, напрыклад, самому вытворцу загадзя не паклапаціцца пра сыравіну, у канкрэтным выпадку, пра макулатуру? Хіба ва ўмовах рыначных адносін забеспячэнне ўсім неабходным не з'яўляецца неад'емнай часткай арганізацыі вытворчасці? Можна з упэўненасцю сказаць, што пры пэўным падыходзе да справы знайшліся б ініцыятыўныя прадпрыемствы, у руках якіх непрэстыжная справа, якою, на думку некаторых, з'яўляецца збор другаснай сыравіны, ператварылася б у карысную і патрэбную для краіны дзейнасць.

У нас жа лічыцца нармальнай з'явай, калі дырэктар прадпрыемства крычыць на ўсю краіну пра тое, што спыняецца вытворчасць з-за недахопу сыравіны, пускае папяровыя пузыры, а ў той час гарады і мястэчкі патанаюць у макулатуры.

**Я.ІВАНОВІЧ, журналіст, ветэран вайны і працы.**

МЯСЦОВЫ ЧАС

Маруся Падачанка раніцай паехала ў райаддзел міліцыі, а пасля абеду таго ж дня ў Курганні толькі гаворкі было пра яе, пра Кольку, Марусінага мужыка, пра суседзяў, якім пасля гэтай паездкі добранька аукнулася.

— Дурная баба! Ну, п'е Колька, дык навошта ж іншых пад манастыр падвяла? Хто цябе за язык цягнуў, Маруся? Эх ты-ы!

— Не, не мужык Колька: правучыў бы разок, дык ведала б!..

Маруся сядзела на лаўцы пад бэзам, церабіла пальцамі ражок хусткі, хлімкала. Жанчыны, у якіх мужыкі таксам любяць заглянуць у чарку, супакойвалі.

— А так ім і трэба! Не будуць паіць нашых. У магазіне няма, а яны тут як тут: выпі, саколік, выпі. Даўно б так! Дзякуй табе, Маруся, што адважылася і пра ўсё расказала...

— Не хацела я, бабы, — апраўдвалася Маруся, бо тут сядзела бабка Агрыпіна, і яна адчувала перад ёй віну. — Само неяк... Міліцыянер жа... Слова за слова... Спярша пра майго пытае: колькі зарабляе, ці ўсе грошы прыносіць? Грошы, гавару, усе аддае. "За што ж п'е тады? Дзе бярэ?". Дык і гавару: то вось бабка Агрыпіна пачастуе...

— Так, так, — ківала Агрыпіна. — Пачастую...

— Ты, цётка, даруй, я ж не думала, што так будзе...

— Што ты! Што ты! Мне ж штрапу далі зусім мала, дробязь, — варухнулася на лаўцы Агрыпіна, папраўла на галаве хустку, махнула рукой. — Бяды тае!

— То, гавару, Мікіта напоіць, — працягвала Маруся. — А ён, міліцыянер, адразу: "А за што яго, Кольку, частуюць усе?". Як, дзіўлюся, за што? Ён жа і агароды старым узарэ, і сена накосіць... За чарку ён гатовы распляскацца ў блін. А вып'е, тады мяне да агранома раўнуе, б'е.

— Колька такі. Ён і мальцам задзіраўся. У клубе шыбы павыбіваў. Ці помніце, бабы?

— Э-ге, э-ге, — сказала Агрыпіна, астатнія кіўнулі.

— Гляджу, — гаварыла далей Маруся, — што ні скажу я, міліцыянер запіша. А тады ўстаў з-за стала, і мне кажа: "Ну, Марыя Пятроўна, давязём мы вас да вёскі". Давезлі, праўда... Цётка Агрыпіна, ты не крыўдуй — я ж на Кольку, дурня свайго, жалілася, а так атрымалася, што суседзі пацярпелі...

— Што ты, што ты, дзеўка!

На вуліцы паказаўся Колька, ішоў ён з пугай цераз плячо, насвістваў, і жанчыны, убачыўшы яго, моўчкі шмыгнулі ад Марусі. Колька сеў побач з жонкай, уздыхнуў, сцебануў па зямлі пугай.

— Ну, і што? — спытаў Колька, зноў сцебануў пугай. — Маўчыш. Так. Людзі мяне баяцца. Раз! Усялякі інцярэс да цябе, як да жонкі, у мяне прапаў. Два! Еду ў горад, а табе буду на шасцярых дзяцей прысылаць аліменты. Тры!

— Едзь, едзь, Колька, — Маруся зноў захлімкала, і Колька разгубіўся: яму шкада зрабілася жонку, слёзы, што каціліся па яе шчоках, выбілі камень з-пад ног, ён крэкнуў, устаў, закінуў пугу на двор.

— Не паеду! Я сказаў! Пакуль аграном тут — не паеду!..

— Дурненькі...

— Я сказаў! Давай боршч!

## РАПАРТ

Участковы Пумпулеў сядзеў у гэты самы час за сталом у сваёй хаце і складаў рапарт на імя начальніка райаддзела міліцыі. Рапарт не атрымліваўся. Быццам усё зразумела, матывы доказныя, а пачне пісаць — не тое выходзіць з-пад пяра. "Эх, Маруся, Маруся! Чаму ж ты адразу, мяне мінуючы, участковага, у райаддзел? Значыць, няма мне даверу. Значыць, што ёсць я, што няма — адзін толк, — разважаў Пумпулеў і выводзіў, нахіліўшыся над сталом, літары на разлінаванай паперы. — Пустое, выходзіць, месца я? Эх, Маруся!".

Пумпулеў адклаў ручку, успомніў расказ з адной кніжкі, якая выпадкова трапіла на вочы ў бібліятэцы. Пачаў чытаць ад няма чаго рабіць — захапіўся. Пра аднаго пенсіянера. Пайшоў той на заслужаны адпачынак, сустрэў неяк на вуліцы былую супрацоўніцу, якую павінны былі прызначыць на ягонае месца, і быў вельмі здзіўлены, што прызначэння не адбылося. Больш таго, нават стол пенсіянера вынеслі з кабінета, а пасаду скарацілі. Вось які фокус! Што запомнілася Пумпулеву: стары не паверыў спярша, памчаў на ранейшае месца працы, каб сваімі вачамі ўбачыць, ці праўда. Убачыў. Не было стала. І вось там ён упершыню, колькі і жыў, падумаў: "А навошта я жыў? Магла б краіна і без мяне абысціся". Калі жыццё шырэй браць, а не вузка: сям'я, дзеці, магазіны, курорты.

Участковы ўспомніў пра вычытанае ў кнізе, уявіў сябе на месцы старога. А што, калі і ён потым пачне дакараць сябе? Можа, пакуль не позна, падшукаць для сябе іншую работу, сказаць, набраўшыся мужнасці: "Не туды сеў, Пумпулеў. Злазь, пакуль далёка не заехаў. Яшчэ не позна".

Нарэшце дапісаў ён рапарт, перачытаў. Карпеў над ім амаль увесь вечар, атрымалася коратка: "Прашу звольніць мяне з органаў унутраных спраў, паколькі памыліўся, уступаючы ў міліцыю". Адвезці яго вырашыў заўтра, не адкладваючы надоўга. Распрануўся, залез пад коўдру. Мерна цікаў на стале будзільнік. Сёння ён дома адзін — жонка з сынам гасцюе ў маці ў суседняй вёсцы, і Пумпулеў быў рады такому выпадку: ведаў, жонка пачне адгаворваць, і тады ён будзе вагацца — а мо і не трэба спяшацца, мо ўсё стане на сваё месца. Добра, што яе няма. Калі прыедзе Галя, будзе ўжо нейкая яснасць.

Не спалася. Перад вачыма стаяла Маруся ў райаддзеле, сярдзітая на Кольку, яна там нагаварыла, відаць, і лішняга... Успомніў лейтэнанта Сідарэнку — гэта ён прывёз Марусю, а потым яны разам хадзілі па дварах, дзе піў Колька, і ў кожным знаходзілі або брагу, або самагон. Ён, бы апраўдваючыся перад землякамі, гаварыў: "Не трэба ж, цётка... Не трэба ж, дзядзька... Забаронена. Нельга". І адчуваў, як гарэлі шчокі, лоб. "Ну які я ўчастковы?".

Старая Агрыпіна дастала з печы трохлітровы слоік з брагай, аддала Сідарэнку, праз слёзы сказала:

— Толькі, саколік, ты мне прыедзь дровы паскідай. Добра, саколік? Дык чакаць мне цябе?

Пумпулеў і раней ведаў, што старая гоніць самагон. Жыве адна, нямоглая зусім, кволая. Трымае карову, парсюка. Сена трэба? Дровы трэба? За добрае слова цяпер ніхто не разгоніцца, нават сваякі, не гаворачы пра чужых. Грошы таксама не бяруць — толькі гарэлкай разлічвайся, цётка, іначай сама рабі. На сесіі сельскага Савета ўчастковы ставіў пытанне наконт старых, там суцешылі: не могуць самі рабіць — няхай не трымаюць карову, няхай пустуе агарод. І ніхто яго тады не падтрымаў. Пумпулеў гарачыўся, даказваў: не па-нашаму гэта, давайце скалоцім брыгаду, няхай яна возьме на сябе клопат пра старых. Без гарэлкі. За грошы. А хто плаціць будзе? — Калгас! Яны ж раней калгас на сваіх плячах з нястачы вынеслі, дык што ж — мы павінны пакінуць сёння гэтых людзей без увагі? Колькі бабулек ды дзядоў гэтых — палічыце! Дзесяць. Усяго. А нас, маладых, колькі? Адзін вясковец, успомніў Пумпулеў лічбу з газеты, пятнаццаць гараджан корміць, а ў нас жа на пятнаццаць чалавек адзін стары прыпадае. Дык што ж мы, не пракормім іх?

Паабяцалі падумаць. І цяпер думаюць.

У Пумпулева дыплом механіка. Думаў, не спатрэбіцца. Памыліўся. "А чаму гэта я пра дыплом? Можа, і парвуць рапарт, возьмуць ды перавядуць у суседнюю вёску? Калі сорамна табе ганяць сваіх самагоншчыкаў, скажуць, — пераязджай. Могуць сказаць такое ці не? Але ж і там, у суседняй вёсцы, жывуць цёткі Агрыпіны, дзядзькі Мікіты...".

З гэтымі думкамі ён заснуў.

Ранкам Пумпулеў паехаў у райцэнтр — павёз рапарт.

**Васіль ТКАЧОЎ.**

З ПОШТЫ ПРЭЗІДЭНТА

## Люты лёс маёра...

*Перада мной — пісьмо простай беларускай жанчыны-маці, жыхаркі Віцебска Валянціны Іванаўны Валчковай. Гэты ліст нельга чытаць спакойна, без пачуцця жалю і жаху. У кожным радку — боль мацярынскага сэрца, якое збалелася ўжо за лёс сына. Але як перадаць словамі гора маці, сын якой некалі паспяхова служыў у органах унутраных спраў, а потым быў арыштаваны і ўжо год знаходзіцца пад следствам.*

Які ж злы лёс прывёў намесніка абласнога аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю на лаву падсудных? У чэрвені 1993 года быў арыштаваны прадпрымальнік А.Г.Памазёнак, дырэктар малога прадпрыемства "Кентаўр". Па гэтай жа справе потым была затрымана сакратар першага намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Сідзельнікава. Аперацыяй кіраваў маёр Валчкоў.

І Памазёнак, і Сідзельнікава потым былі вызвалены абласной пракуратурай. Памазёнак заявіў, што яшчэ ў снежні 1992 г. даў хабар Валчкову, які працаваў тады намеснікам начальніка АБЭЗ УУС Віцебскага аблвыканкама.

На падставе гэтай заявы пракуратура Віцебскай вобласці прад'явіла ў кастрычніку 1993 г. Валчкову абвінавачванне ў атрыманні хабару ад А.Г.Памазёнка.

Больш дзесяці месяцаў цягнулася следства, пасля заканчэння якога справа перадавалася з аднаго народнага суда горада на Дзвіне ў другі, а затым была запатрабавана Вярхоўным судом рэспублікі, які і разгледзеў яго ў першай інстанцыі з 4 па 24 жніўня.

Вынесена пастанова аб накіраванні справы на дадатковае расследаванне Генеральнаму пракурору рэспублікі. Нягледзячы на тое, што следства працягвалася так доўга, суд не змог вынесці абвінавачванне.

Звернемся зноў да пісьма маці. Вось што яна піша прэзідэнту:"На судовым пасяджэнні, дзе я асабіста прысутнічала і вяла запісы паказанняў сведкаў абвінавачвання, віноўнасць майго сына не была ўстаноўлена: мой сын не быў злоўлены на месцы злачынства; паказанні Памазёнка, галоўнага сведкі абвінавачвання, як на папярэднім следстве, так і пры судовым разборы былі супярэчлівымі, заблытанымі, канкрэтна не было сказана, калі быў дадзены хабар; сведкаў дачы хабару няма; паказанні сведкаў — жонкі Памазёнка Веры і вадзіцеля Хадаровіча — супярэчлівыя і неканкрэтныя. Пра дачу хабару яны быццам бы даведаліся са слоў Памазёнка. Жонка Памазёнка дапытвалася судом двойчы".

Далей маці скардзіцца на дрэннае здароўе сына, яго цяжкую хваробу і прыкладае адпаведныя медыцынскія дакументы. "Сям'я яго,— піша Валянціна Іванаўна,— жонка і двое дзяцей, знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы, не маюць сродкаў для існавання. Бацькі — састарэлыя і хворыя (абодва інваліды працы II групы). Бацька — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны".

Паводле слоў Валчковай, крымінальная справа ў адносінах А.Г.Памазёнка зараз разглядаецца Кастрычніцкім народным судом г.Віцебска, ён абвінавачваецца ў пасрэдніцтве і неаднаразовай дачы хабару.

Тым часам Пракуратура рэспублікі прадоўжыла тэрмін разглядання крымінальнай справы і зняволення Валчкова да 20 снежня 1994 г.

Служба кантролю Адміністрацыі прэзідэнта 14 кастрычніка накіравала Генеральнаму пракурору рэспублікі прапанову замяніць меру зняволення ў адносінах А.С.Валчкова.

Кропку ў гэтай гісторыі паставіць суд. Мы ж закончым аповед радкамі з пісьма Валянціны Іванаўны:"Калі мы прызнаём наяўнасць арганізаванай злачыннасці, карумпіраванасці структур улады, то трэба мець на ўвазе, што "мафія" спрабуе і будзе гэта рабіць у далейшым, рознымі спосабамі кампраметаваць, шальмаваць сумленных людзей, якія спрабуюць з ёй змагацца".

Вось такія лісты атрымлівае зараз наш прэзідэнт. Скарга Валянціны Іванаўны — толькі кропля ў моры пасланняў прыніжаных і зняважаных людзей. Спадзяёмся, што да іх будуць уважліва ставіцца не толькі супрацоўнікі Службы кантролю Адміністрацыі прэзідэнта, але і праваахоўныя органы.

**В.КАЛЕСНІКАЎ,**

**вядучы спецыяліст Службы кантролю Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

## ПРЫРОДЗЕ — ПАД ДЫХ

*Некалькі гомельскіх прадпрыемстваў умудрыліся стварыць звалку ў цэнтры горада. Але тайнае часцей за ўсё становіцца відавочным. Калі ад адходаў, якія трапілі праз ручай у прыгараднае возера, пачала дохнуць рыба, забіла трывогу абласная інспекцыя. Былі знойдзены вінаватыя, якія тут жа згадзіліся вывезці адходы на гарадскую звалку: абы было ціха.*

*Аднак, як высветлілася, толькі для таго, каб... спіхнуць смецце ў бліжэйшы ручай.*

*Вось так паклапаціліся пра экалогію!*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.**

## Давайце гаварыць часцей кампліменты

Мабыць, няма ў Беларусі чалавека, які б ні разу не звяртаўся да паслуг стаматолага. Вядома, што ў вадзе нашай мала кальцыю, фтору. Цяпер жа, у сувязі з нізкім узроўнем жыцця з-за дарагоўлі, калі мала спажываецца вітамінаў, ды і харчаванне наогул разбалансаванае, "зубная" праблема непакоіць многіх, нават двухгадовых дзетак.

У платных паліклініках цэны вельмі "кусачыя". І добра яшчэ, што ёсць дзяржаўныя медыцынскія ўстановы, дзе лечаць бясплатна.

Мне часта даводзіцца звяртацца ў мінскую стаматалагічную паліклініку № 5, што па вуліцы Маскоўскай. У рэгістратуры цябе сустракаюць вельмі мілыя, ветлівыя, уважлівыя жанчыны: Драздоўская Марыя Барысаўна, Грыдзяева Святлана Уладзіміраўна і іншыя. А рэгістратура — візітная картка лячэбнай установы. Паліклініка № 5 самая вялікая па колькасці насельніцтва, якое даводзіцца абслугоўваць, але самая маленькая па плошчы. Працаваць у ёй складана, бо вельмі цесна — памяшканне прыстасаванае (колісь у ім наогул размяшчаўся агароднінны магазін). Але, як гавораць, цесна сядзець, ды добра глядзець.

А ставяцца да пацыентаў тут вельмі прыязна. Калектыў дружны, згуртаваны. Кіруе ім вельмі душэўны, добры, спагадлівы чалавек галоўны ўрач Станіслава Антонаўна Каржова. Сама прафесіянал экстра-класа, падбірае добрых спецыялістаў. Да яе намесніка Тамары Мікалаеўны Васько заўсёды вельмі прыемна звяртацца. Яна, як і ўсе, марыць пра новы будынак для паліклінікі.

Тэрапеўтаў Бойка Валянціну Віктараўну і Паляшчук Тамару Іванаўну, парадантолага Таццяну Барысаўну Дзіско хачу адзначыць асобна. Яны могуць вылечыць самы складаны зуб, зрабіць, здаецца, немагчымае. Я іх лічу феямі, чарадзейкамі, каралевамі сваёй справы. Яны вельмі жаноцкія, прыгожыя і тварам, і душой, рукі ў іх залатыя.

Асаблівую падзяку хачу выказаць пратэзісту Віталю Міхайлавічу Краўцову, які вельмі добрасумленна ставіцца да сваёй работы. Ён сапраўдны майстар. Яго можна параўнаць са скульптарам. Я яго называю Мікеланджэла, бо ён творца, які робіць цуды.

Вельмі ўдзячна я тэхніку Ірыне Гур. Маленькая, увішная, як Папялушка.

Словам, працуюць тут вельмі самаадданыя людзі, якія любяць сваю прафесію, пацыентаў, бо за зарплату, якую яны атрымліваюць, могуць працаваць толькі альтруісты. Бо на людзях, для якіх грошы — не самая вялікая каштоўнасць, зямля трымаецца.

Шчыра віншую ўсіх супрацоўнікаў, урачоў, сястрычак з надыходзячым Новым годам.

Прыміце пажаданні шчасця, здароўя ад удзячнай

**Валянціны СКАРЫНКІНАЙ.**

## ГАРЧЫЧНІК

*Парамон Капуза*

# Выпадак

## Гумарэска

У нядзелю я пайшоў па хлеб. На рагу каля булачнай мяне спынілі двое.

Калі ласка, будзьце натуральнымі! — сказаў першы, наязджаючы на мяне тэлекамерай.

Я пакутліва ўсміхнуўся.

— Скажыце, — запытаўся другі, тыцнуўшы мне ў твар мікрафон, — якая пара года вам больш даспадобы?

— Зіма, — сказаў я чамусьці і ўвайшоў у краму.

Роўна праз тыдзень у адной з тэлеперадач я ўбачыў сябе на экране. Спачатку паказалі некалькі чалавек. Аднаму падабалася лета, другому — восень, трэцяму — вясна. Потым паказалі мяне. Буйным планам. Я ненатуральна ўсміхнуўся і сказаў: "Зіма".

Наступнай раніцай жонка сказала:

— Мог бы і папярэдзіць, што цябе будуць паказваць па першай праграме! Я ж табе ўсё-ткі родная жонка!

— Ды што ты, Лёля, — сказаў я, — гэта ж чыстая выпадковасць. Я й сам не ведаў.

— Вядома ж... І пра тое, што ў тваёй любімай матулечкі ёсць каляровы тэлевізар,ты таксама не ведаў?!

— Ведаў, — сказаў я, — дык і што?

— А тое, — заплакала Лёля, — што, калі пабачыла цябе па каляровым тэлевізары ў клятчастай сарочцы з адарваным гузікам, яна мне гэтага ў жыцціі не даруе! Ты ўсё гэта наўмысна зрабіў! Я цябе наскрозь бачу, інтрыган!

На працы мяне выклікаў да сябе дырэктар інстытута.

— Ну што ж,— сказаў ён, падпісваючы нейкія паперы, — учора вас бачыў па тэлевізары... Між іншым, я б на вашым месцы не стаў супрацістаўляць сябе ўсяму калектыву, а падказаў бы таварышам з тэлебачання, што ў нас ёсць заслужаныя супрацоўнікі, якія даўно ўжо маюць на гэта права. А вам трэба сябе паводзіць больш сціпла!

Пасля абеду прыйшоў Заламай з планавага аддзела.

— Парамоша! — ласкава вымавіў ён, абдымаючы мяне за плечы. — У мяне да цябе просьбачка... Пазыч пяцьдзесят тысяч на паўгода. На машыну не хапае. Я ведаю, ты зможаш! Я ж ведаю, колькі вы, артысты, зарабляеце. Табе што, зняўся пару разоў, а мне ўсё жыццё збіраць трэба.

Потым пазваніў сябра.

— Так-так... — вымавіў ён у трубку. — Зазнаўся, зазнаўся, стары! Як па тэлевізары паказалі, дык і званіць перастаў!

— Дык мяне ж толькі ўчора паказалі, — сказаў я.

— Вось з учарашняга дня і не звоніш! Кепска, стары, кепска!

У пяць гадзін прыйшла Вольга Кірылаўна, наш прафорг.

— Капуза! — залапатала яна. — Мы вырашылі, што вы павінны ўзначаліць мастацкую самадзейнасць! Скажам, хор!

— Але ў мяне слыху няма!

— Не выкручвайцеся, Капуза! Я цудоўна ведаю, што без слыху нават у кансерваторыю не прымаюць, не тое што на тэлебачанне!

Вечарам прыйшоў сусед.

— Ну, Марцэлевіч, малаток! Бачыў цябе ўчора ў скрыні! Магутна! Ну, як жывы! Ты гэта, не забудзь, папярэдзь, калі другая серыя!

Спаў я блага.

А ў наступны дзень мяне выклікаў начальнік аддзела.

Так... — панура вымавіў ён. — Цяпер я разумею, чаму вы дагэтуль не можаце закончыць справаздачу за трэці квартал! Канечне, на здымкі ў вас час знаходзіцца... Ну-ну, Капуза, двайное жыццё ведзяце!.. Дарэчы, калі вам гэтак падабаецца зіма, у адпачынак вы пойдзеце не ў ліпені, а ў снежні!




Малюе І. АМЕЛЬЯНОВІЧ.

### Усяк бывае

*Варожым на вадзе,*
*Ці на вадзе варожым?*
*..................................*
*Кажух дублёны ці рыбак?*
*..................................*
*Сядзіш, а галава...*
*Зялёнае...*
*Прыпынак.*

Юрка ГОЛУБ.

*Сяджу... у вачах зялёна...*
*Кажух або шчупак?..*
*Вярсты даўжэзнай смак...*
*Ружовы пах пялёнак...*

*Прызнацца мне не сорам —*
*Я свіснуў нездарма:*
*Прыбегла ты сама*
*Пакаштаваць прастору.*

*Мільгае перламутрам*
*дрыготкая пара.*
*Грымзоліць з-пад пяра*
*Радок задумна-мудры.*

*Ажно чытач нямее,*
*Слыннейшы сярод нас.*
*Здараецца: падчас*
*Сябе я разумею.*

*Георгій Юрчанка*

## Пародыі

### У камлях

*Звужаюцца цясней гадоў кругі*
*вакол камля падзей.*
*..................................*
*Не ведаю, а ці кране прадвесень*
*камлістае ў зазубрынах жыццё?*

Сяргей ПАНІЗЬНІК.

*Камель жыцця, камель надзеі,*
*пачуццяў важкія камлі...*
*Засцілы прысмеркаў радзеюць,*
*як я камлюю па зямлі.*

*Я счуў: на зверхнасці галоўнай*
*камлістым сном буяе хмель,*
*таму злагоднена, мілоўна*
*нясу ўспомненняў камель.*

*Бы ткаль,*
*з пісацкім правазваннем*
*сябе звязаўшы вузялком,*
*хаджу на словапаляванне*
*з дубовым гладкім камлюком.*

*Ды нешчаслівымі вякамі*
*на сцюжны выведзены шлях,*
*гатоў дубасіць камлюкамі*
*па спаконвечнасці камлях.*

### Папруга

*Я зведаў твой холад і глянец,*
*Не сорамна сёння мне,*
*Што ты скураны свой танец*
*Скакала ў мяне на спіне...*

Казімір КАМЕЙША.

*Хай вые, як звер, завіруха,*
*хай дзеўкі выходзяць на круг, —*
*мне ў слодычы сніцца папруга,*
*адна з найямчэйшых папруг.*

*Яна мне галоўным кумірам*
*служыла ў хвіліны тугі.*
*Заўсёды з расчуленнем шчырым*
*насіў я яе пісягі.*

*Парумзаўшы ўсмак за дрывотняй,*
*імчаў я па бульбу барзджэй,*
*і пасвіў падсвінкаў ахвотней,*
*і вершы завучваў хутчэй.*

*Без лупкі ж і нудна, і цяжка,*
*аж муляе штось на спіне...*
*Хто б сёння па самую спражку*
*папругі ўрэзаў бы мне?..*



Малюе В.САКОВІЧ

## НОТНЫ АРКУШ

# "АББА" вяртаецца

***"АББА" раптам зноў пачала цікавіць слухачоў. Гэты выдатны шведскі эстрадны квартэт займае па папулярнасці, згодна з данымі Кнігі рэкордаў Гінеса, другое месца ў свеце за ўсе часы, уступаючы толькі "Бітлз". Дык няўжо Агнета Фэльскуг, Б'ёрн Ульваэус, Бені Андэрсон і Ані–Фрыда Люнгстад, гэта значыць "АББА", на самай справе вяртаюцца? Так, але толькі ў пераносным сэнсе слова.***




Чацвёрка спыніла выступленне ў 1983 годзе, пасля чаго кожны з артыстаў пайшоў сваёй дарогай. Праўда, мужчынская палавіна ўсё яшчэ трымаецца разам: Б'ёрн і Бені рыхтуюць пастаноўку музычнага спектакля на сцэне горада Мальмё па матывах твора класіка шведскай літаратуры Вільгельма Муберга "Эмігранты", якія прысвечаны хвалі перасялення шведаў за акіян у канцы XIX стагоддзя.

З дзяўчатамі ўсё адбылося інакш. Бялявая Агнета пасялілася на адным з астравоў у стакгольмскіх шхерах і вядзе там пустэльніцкае жыццё, а брунетка Ані-Фрыда выйшла замуж за прынца са Швейцарыі (аказваецца, у гэтай старой рэспубліканскай канфедэрацыі захаваліся і такія персанажы) і сканцэнтравала сваю дзейнасць на ахове навакольнага асяроддзя.

Тым не менш, "АББА" зноў аказалася ў цэнтры ўвагі ў Швецыі і ў іншых краінах. Справа ў тым, што ў музычных магазінах з'явіўся вялікі зборнік з чатырох кампакт-дыскаў, у якім сабраны практычна ўсе творы гэтай групы, якія яна выконвала ў 1972—1983 гадах.

Зборнік называецца "Дзякуй за музыку". Шведская прэса прадказвае зборніку вялікі поспех. "Больш чым за дзесяць гадоў маўчання квартэта цікавасць публікі не проста захавалася, а нават узрасла", — лічыць адна з вядучых стакгольмскіх газет "Дагенс нюхетэр".

Выдатная музыка, якую стваралі Бені і Б'ёрн, была прадпасылкай поспеху групы, але яе галоўная сіла заключалася ў рэдкай галасавой звязцы Агнеты і Ані-Фрыды. Кожная з іх паасобку, піша газета, была звычайнай спявачкай, але разам яны дасягалі рэдкага гучання.

Сімвалічнаму вяртанню квартэта садзейнічае і адначасовае з'яўленне ў Швецыі кнігі Карла Пальма "АББА — поўны збор запісаў", у якой аўтар паставіў мэтай упершыню паказаць гэту шведскую групу як бы знутры. Чаму ж раней гэтага ніхто не зрабіў?

— Таму што ў ранейшых кнігах і газетна-часопісных артыкулах гаварылася ў асноўным пра грошы, якія зараблялі Агнета, Ані-Фрыда, Б'ёрн і Бені, а таксама пра іх асабістае жыццё. Для сур'ёзнага апавядання трэба было паставіць іншую мэту. Гэта я і зрабіў. І быў здзіўлены тым, якімі прывабнымі, добрымі і ўраўнаважанымі яны аказаліся, — сказаў Карл Пальм.

Яму ўпершыню за апошнія гады ўдалося сабраць усю чацвёрку і разварушыць іх на агульную размову. А Бені і Б'ёрн нават прадаставілі аўтару свае архівы.

— Я імкнуўся, — працягваў Карл Пальм, — зрабіць сваю кнігу як мага больш грунтоўнай. Справа ў тым, што папулярнасць групы "АББА" дасягнула такога высокага ўзроўню, што яна ўжо ніколі не будзе забыта. Вось чаму я хацеў скласці даследаванне, якое станавілася б у адзін рад з кнігамі пра "Бітлз" і "Ролінг Стоўнз".

Якая ж яна, гэтая праўдзівая карціна. У прадмове да кнігі Карла Пальма самі Б'ёрн і Бені пішуць: яны рады таму, што аўтар развянчаў міф пра іх групу, як пра фабрыку шлягераў. Кожны, хто прачытае кнігу, зразумее, што "АББА" не канструявала свой сцэнічны вобраз, а часта дзейнічала па натхненню.

Гэта гісторыя пра дружбу чатырох артыстаў, якая пачалася з таго, што дзве закаханыя пары пачалі разам выконваць песні ў час канікулаў у 60-я гады. Ужо тады многія здзіўляліся таму, як надзвычай злітна і добра гучалі іх галасы.

Аднак потым іх сумесная кар'ера ператварылася ў бясконцую напружаную працу, якая суправаджалася самай бязлітаснай патрабавальнасцю да сябе.

Вось гэта патрабавальнасць і бязлітаснасць да сябе сталі адной з галоўных састаўных вялікага поспеху шведскага квартэта. А другая таілася ў тым, што яны былі таленавітымі артыстамі і вельмі добра дапаўнялі адзін аднаго, што надзвычай важна для выступлення групы.

Карл Пальм прыводзіць многа фактаў, якія раней не прыходзілася чуць. Напрыклад Б'ёрн, які асабліва многа ўдзяляў увагі тэкстам песень, гаворыць, што ў шлягеры "Пайпер" гаворыцца пра небяспеку прыходу новага Гітлера, што ў "Візіторз" — пра палітычных зняволеных у СССР, у "Солджэрз" раскрываюцца тайныя задумы правых сіл у стане ваенных. Ані-Фрыда прызнае, што шлягер "Дансінг куін", ("Танцуючая каралева") так яе ўзрушыў, калі яна ўпершыню пачула музыку і тэкст песні, што проста расплакалася.

З цягам часу ў квартэце "АББА" ўсё ж узніклі рознагалоссі. Абедзве пары развяліся, працаваць разам было цяжка. "Увесь мой смутак ад разводу з Бені выказаны ў шлягеры "Калі ўсё сказана і зроблена". Гэтая песня застаецца маёй любімай да гэтага часу", — гаворыць Ані-Фрыда.

Але "АББА" памятаецца мільёнам тым, што дасягнула заоблачных вышынь у сваёй творчасці і незвычайнай папулярнасці. Тыраж пласцінак дасягнуў 258 мільёнаў экземпляраў, а ў якасці каласальнага поспеху прыводзіцца такі выпадак: на два канцэрты ў лонданскім "Роял Альберт холе" ў 1976 годзе было прыслана 3,5 мільёна заявак на білеты!

— "АББА" была геніяльнай групай, — сцвярджае Мікаэл Трэтаў. — Гэтыя артысты ўзнялі эстрадную музыку на новы ўзровень і паказалі, якой павінна быць гэта музыка.

— У вас няма адчування, што іх сёння ўсё ж недаацэньваюць?

— Наадварот. Іх і цяпер прымаюць усур'ёз. Шлягеры квартэта "АББА" зноў папулярныя. Маятнік качнуўся назад...

*"Известия".*

## КУЛЬТУРНЫ АДПАЧЫНАК

### *Бясплатныя кінасеансы ў кінатэатрах і дамах культуры г.Мінска 15—18 снежня*

**"БЯРЭСЦЕ":** 15 снежня, 12.00 — маст.фільм "Перад світанкам" (рэж.Яраполк Лапшын).

**"ПАРТЫЗАН":** 16 снежня, 11.30 — прыгодніцкі фільм-казка "Вогненны стралок", сустрэча з творчай групай (рэж. І.Князевым) — да 70-годдзя беларускага кіно.

**"МІР":** 17 снежня, 15.30 — прэм'ера фільма Ігара Дабралюбава "Эпілог" (сустрэча з рэжысёрам) прысвячаецца 70-годдзю беларускага кіно.

15.00 — сустрэча з рэж. А.Белавусавым, м/ф "Дэкамерон".

**"МАСКВА":** 18 снежня, 11.00 — кінакамедыя Ігара Дабралюбава "Белыя росы" ў цыкле "Залатыя старонкі савецкай кінакамедыі" — да 70-годдзя беларускага кіно.

18 снежня, 16.00 — фільм Міхаіла Пташука "Кааператыў "Палітбюро", сустрэча з рэжысёрам — да 70-годдзя беларускага кіно.

25 снежня, 11.00 — кінакамедыя Алы Сурыкавай "Чалавек з бульвара Капуцынаў" у цыкле "Залатыя старонкі савецкай кінакамедыі".

**ПАЛАЦ ПРАФСАЮЗАЎ:** 18—25 снежня, 18.00, 20.30 — II частка праграмы "Французскі альбом", "Панарама французскага кіно" — калядны падарунак мінчанам і гасцям сталіцы ад беларускай федэрацыі "Кінаклуб" і пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь. Гэта будуць лепшыя французскія дэтэктывы розных гадоў. Гледачы зноў сустрэнуцца на экране з зоркамі французскага і сусветнага кінематографа: Катрын Дэнёў, Жанам Габенам, Жэрарам Дэпардзье, Жанам-Луі Трэнціньянам, Аленам Дэлонам, Рышарам Барынжэ.

## РЭКЛАМА



## ХАТНІ ЭКРАН

### ■ 15, чацвер

**Беларускае тэлебачанне**

7.55. Праграма перадач.
8.00. Навіны.
8.10. Дайджэст.
8.20. Пяць хвілін за жарты.
◆8.25. "Маё каханне, мой смутак".
8.55. Фільм-канцэрт.
◆9.30. "Добрыя намеры".
10.20. Кінафестываль "Залаты Віцязь".
* 11.35. "Раскажыце казку, доктар".
◆12.15. "Прыгоды Электроніка".
13.20. Урокі здароўя.
13.45. "Крок". "Пяць зорак".
◆14.45. "І смех, і бяда".
15.30. Развітанне". Д/ф.
16.00. ТБ – школе.
* 16.30. "Хітрыкі Рамзеса" і інш.
17.00. Навіны.
17.10. Да 50-годдзя Перамогі.
17.30. "Любімыя песні. Спявае Людміла Гурчанка".
18.10. Навіны (Гродна).
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эканамічная хваля.
19.50. "Крок". "Наўцілус".
* 20.10. Мультфільм для дарослых.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. "Крок". Студыя "Формула".
23.15. НіКа.
23.30. Дайджэст.
23.40. Мелодыі мінулага.

**Канал "Астанкіна"**

7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 20.00, 22.50. Навіны.
* 8.00. "Топа Джыджыа".
◆8.25. "Дзікая Роза".
9.00. Амерыка з М.Тарамутам.
9.30. Напевы зямлі рускай.
14.00. Сяло і рэформы.
14.15. Мой маленькі бізнес.
14.25. Хроніка дзелавога жыцця.
14.35. Дазвольце прадставіцца.
15.00. Мульцітролія.
15.30. На балі ў Папялушкі.
16.00. Цін-інтым.
◆16.20. "Элен і рабяты".
16.50. Свет сёння.
17.00. ...Да 16 і старэйшым.
17.30. Спявае В.Саўчанка.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". М.Хары.
18.00. Гадзіна пік.
◆18.25. "Дзікая Роза".
18.55. Аўтарская праграма Л.Філатава.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква. Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
◆21.30. "Дона Флор і два яе мужы" (Бразілія).
23.20. "Замак мастацтваў".
24.00. Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

6.30. Формула-730.
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00. ВестKі.
7.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.25. Паехалі.
◆8.35. "Санта-Барбара".
9.25. Тэлегазета.
9.30. На палітычным Алімпе.
10.20. Група "Камандор А".
10.25. Гандлёвы дом "Ле-Монці".
10.40. Сялянскае пытанне.
11.05, 13.20. Дзелавая Расія.
13.45. Выратаванне 911.
15.10. Рэпартажы з месцаў.
15.20. Там-там навіны.
15.35. Свята кожны дзень.
15.45. "Ствары дабро".
16.25. На Сусветнай шахматнай алімпіядзе.
16.55. Экспавідэа.
17.10. Будні.
17.50. У свеце аўта- і матаспорту.
18.20. Пяць хвілін аб добрым жыцці.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
◆19.35. "Санта-Барбара".
20.30. Маскі-шоу.
21.10. Надзвычайны канал.
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Шахматная ліхаманка.
22.50. Новы ілюзіён. "Белая карціна".
23.20. Зоркі гавораць.

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.30. Інфарм ТБ.
* 12.10. "Чурэк і малыш".
12.20, 14.25, 17.45. Музычны момант.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
◆13.30. "Глушак".
14.00. Урок нямецкай мовы.
* 14.15. "На парог мой села казка".
◆14.45. "Вышыня".
16.15. "У краіну вулканаў за зялёным голубам". Д/ф.
16.35. Чароўная лінія.
16.50. Адказы на пісьмы.
* 17.35. "Яблыня".
17.50. "Вандроўнік".
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.00. Вялікі фестываль.
◆19.20. "Медзведзяня".
21.20. Тэлеслужба бяспекі.
21.45. Спартыўныя навіны.
21.55. Тэлемагазін.
22.05. Ваш стыль.
◆22.10. "Глушак".
22.40. Парад парадаў. Музычнае шоу.

**8-ы канал**

* 18.00. "Кругасветнае падарожжа Вілі Фога".
18.30. "Два Арбаты". Д/ф.
18.45. З відэазборніка "Зусім сакрэтна".
◆19.00. "Марэна Клара".
* 19.50. Мультфільм.
20.05. БАНТ. "Рэпартаж".
20.15. Да ведама.
◆20.40. "Шанцы".
21.30. Студыя "БМ".
◆21.50."Чорны манах".

**НТБ**

* 17.00. Мультфільм.
17.25. "Загадкі Біблії".
18.00. 21.00. Сёння.
18.35. Такое спартыўнае жыццё.
◆19.15. "У трызненні". (ЗША).
◆21.35. "Дом жахаў Хамера".
22.35. Часінка.
◆23.10. "Каравул".

### ■ 16, пятніца

**Беларускае тэлебачанне**

8.00. Навіны.
8.10. Дайджэст.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.25. Фільм-канцэрт.
9.00. ТБ – школе.
9.30. "Гран-па ў белую ноч". Музычны фільм.
10.35. "Крок". "Наўцілус".
◆10.55. Кароткаметражныя фільмы.
11.40. Вытокі.
◆11.55. "Варвара-краса, Доўгая Каса".
13.15. Фільм-канцэрт.
13.45. "Я+Я".
◆14.30. "Балада пра салдата".
16.00. Вывучаем сваю гісторыю. "Адвечныя званы". Д/ф.
16.20. "Тэлебом".
17.00. Навіны.
17.10. Да 70-годдзя беларускага кіно. "Мая любоў – кінематограф". Д/ф.
* 17.40. "Непаседа" і інш.
18.10. Навіны (Магілёў).
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эканамікст.
19.20. Сустрэча з інвестарамі з Германіі.
19.35. Беларускія рэжысёры ў Германіі.
20.05. Падарункі на добры настрой.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. Музыка без межаў.
◆22.30. "Развітанне славянкі".
0.00. НіКа.
0.15. Дайджэст.

**Канал "Астанкіна"**

7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 20.00, 23.00. Навіны.
8.00. Сарока.
8.20. С.Пракоф'еў. Сімфанічная казка "Пеця і воўк".
9.00. Дапамажы сабе сам.
* 9.30. Мультфільм.
14.00. Улада і рэформы.
14.15. Наш прагноз.
14.25. Хроніка дзелавога жыцця.
14.35. Шоу і бізнес.
◆15.00. "Мільён прыгод. Востраў Іржавага генерала".
16.30. Рок-урок.
16.50. Свет сёння.
17.00. Чалавек і закон.
17.25. Хакей. Міжнародны турнір на прыз газеты "Известия". Зборная Расіі – зборная Францыі.
20.30. Надвор'е.
20.40. Поле цудаў.
◆21.30. "На ўцёках" (Францыя).
21.10. "Погляд" з А.Любімавым.
24.00. Прэс-экспрэс.
0.10. Музагляд.

**Канал "Расія"**

6.30. Формула-730.
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00. ВестKі.
7.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.25. Паехалі.
◆8.35. "Санта-Барбара".
9.25. Новая лінія. "Адлюстраванне".
10.05. Мемуары.
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
11.05, 13.20. Дзелавая Расія.
* 13.45. "Востраў скарбаў".
15.10. Рэпартажы з месцаў.
15.20. Студыя "Рост". "Чый бок?"
15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Расійскі флот жывы.
◆16.55. "Выкрадзены" (ЗША).
18.35. Група "Паліцыя нораваў".
18.40. Непапулярная тэма.
19.25. Падрабязнасці.
◆19.35. "Санта-Барбара".
20.30. Зоркі Нью-Йоркскага джаза.
21.05. К-2". "Абзац".
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Праграма "А".
23.35. Зоркі гавораць.

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.30. Інфарм ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
12.55, 14.40, 17.50, 19.05. Музычны момант.
13.00. Хуткая дапамога.
◆13.30. "Глушак".
14.00. "Еўрапейскі калейдаскоп".
◆14.45. "Медзведзяня".
16.45. Па ўсёй Расіі.
16.55. Кідайка.
17.35. "Васьміног". Тэлефільм.
17.55. Храм.
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.10. Вялікі фестываль.
◆19.25. "Цана скарбаў".
21.00. С.Пракоф'еў. "Папялушка". Сцэна з балета.
21.10. Тэлемагазін.
21.15. Тэлеслужба бяспекі.
21.45. Спартыўныя навіны.
21.55. Ваш стыль.
◆22.05. "Глушак".
◆22.35. "Вісельнік" (ЗША).
23.55. "Дзе б ні быў я". Спявае У.Атлантаў.

**8-ы канал**

* 18.00. "Кругасветнае падарожжа Вілі Фога".
18.30. Дорэміфасолькі.
18.55. БАНТ. "Рэпартаж".
◆19.10."Марэна Клара".
20.00. Агенцтва "Пармікс".
20.15. Стрэс-паўза.
20.20."Я і мой сабака".
◆20.40. "Шанцы".
21.30. Студыя "БМ".
21.45. Час мясцовы.
◆22.15. "Вельмі вас усіх люблю".

**НТБ**

* 17.00. Мультфільм.
17.30. "Загадкі Біблії".
18.00 і 21.00. Сёння.
18.35. Футбольны клуб.
◆19.25. "Адзінокая жанчына жадае пазнаёміцца".
◆21.35. "Дом жахаў Хамера".
22.35. Часінка.
23.10. Начны канал. "Плейбой".
◆1.40."Так робяць усе жанчыны" (Італія).

Заліковую кніжку №58/93 на імя Коржык Алены Васільеўны лічыць несапраўднай.




Дзяжурны рэдактар Якаў ЯСЭПКІН. Стыльрэдактар Валянціна СКАРЫНКІНА.

Заснавальнікі: ЦК СМБ, калектыў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена".
Выдавец: газетна-выдавецкае закрытае акцыянернае таварыства "Маладняк",
220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220013, г.Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
Выходзіць у аўторак, чацвер і суботу.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*
Час падпісання ў друк: па графіку – 19.20, падпісана – 19.20.
М. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63129. Зак. 135.
Тыраж у снежні 49 736, па суботах-50 736.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220013 г.МІНСК, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная – 68-26-27; намеснікі галоўнага рэдактара – 32-12-82, 68-29-45; сакратарыям – 68-29-28; аддзел палітыкі – 68-25-55; аддзел эканомікі і сацыяльных праблем – 68-28-52; аддзел культуры і гістарычнай спадчыны – 68-29-56; аддзел маральна-этычнага выхавання – 68-25-93; аддзел пісьмаў і вывучэння грамадскай думкі – 68-28-32; аддзел студэнцкай і школьнай моладзі – 68-25-93; аддзел інфармацыі, аглядальнікі – 68-29-26; аддзел ілюстрацыі – 68-27-74, 68-25-41; ул. кар. па Віцебскай вобл. – (02132) 2-36-37.
РЭКЛАМНАЯ СЛУЖБА – тэл.. 68-29-45. Факс: 32-21-03.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валянцін БАРЫСЕВІЧ, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Віктар ЛЮКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Аляксандр САЛАМАХА (першы нам.галоўнага рэдактара), Павел СІМАНАЎ (нам.галоўнага рэдактара), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА, Вольга ШАЎКО, Майя ШЭНДРЫК.

*Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ*